Год IV. Лістапад № 11 (46).

# Шлях Моладзі

…„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."

ЯНКА. КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1932 г.

Беларуская Друкарня ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. №6

## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — A, a. | J, j — Й, й. | R, r — P, p. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — C, c. |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — Е, е. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю. | Š, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — K, к. | T, t — T, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F, f — Ф, ф. | M, m — M, м. | V, v — В, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — H, н. | Y, y — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — X, x. | O, o — O, o. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I, i — I, i. | P, p — П, п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |

# „Шлях Моладзі“

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы . . . . 50 гр.
„ на паўгода. . . . . . 1 зл.
„ на год . . . . . . . . 2 зл.

Заграніцу ўдвая даражэй.

Цана абвестак паводле ўмовы.

**Адрэс Рэдакцыі**: Вільня (Wilno), Завальная № 6 — 10.
Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год IV. | Вільня, Лістапад 1932 г. | № 11 (46). |
|---|---|---|

*БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ ПАЭТ*



*ЯКУБ КОЛАС.*

# У 50-тыя ўгодкі жыцьця Якуба Коласа.

(*1882—1932*).

22-га кастрычніка па старому стылю, а 3-га лістапада па новаму, сёлета прыпадаюць 50-тыя ўгодкі жыцьця вялікага і найпладнейшага беларускага Народнага Паэта Якуба Коласа, сьветлай асобе якога прысьвячаем гэты артыкулік аб ягоным жыцьці і творчасьці, каб бліжэй пазнаёміць з ім беларускую моладзь.

22-га кастрычніка 1882 году, у хаце беднага лясьніка Міхася Міцкевіча ў в. Мікалаеўшчына, Менскага (сяголньня— Стаўпецкага) павету, радзіўся сын, імя якому далі Кастусь. Бацькі яго, хоць мала былі граматныя, аднак добра разумелі патрэбу асьветы, і як толькі Кастусь стаў падрастаць, пачалі яго вучыць, спачатку ў хаце, а пасьля аддалі ў расейскую вучыцельскую сэмінарыю ў Нясьвіжы. У сэмінарыі гэтай узгадаваньне адбывалася ў чорнасоценскім расейскім духу. Аднак група беларускае моладзі, якая там вучылася і паходзіла з ваколіц в. Мікалаеўшчыны, не паддавалася расейскім уплывам, а трымалася свайго роднага, беларускага, не пакідаючы сувязі з вёскай. Сярод гэтае групы моладзі асабліва вырожніваўся Кастусь Міцкевіч, які ў часе вечарын чытаў свае беларускія вершы. Кастусь Міцкевіч ужо на дванаццатым годзе свайго жыцьця пачуў цяг да пісаньня вершаў, але рабіў гэта парасейску. Неяк аднак папаліся яму ў рукі творы беларускага паэта Янкі Лучыны (Неслухоўскага) і вось-жа па прачытаньні іх Кастусь Міцкевіч пачаў пісаць вершы ўжо пабеларуску. Па сканчэньні сэмінарыі К Міцкевіч атрымаў у 1902 годзе пасаду ў расейскай школе на Палесьсі. Тут ён, ня губляючы лучнасьці з сваімі таварышамі, пачынае што раз больш цікавіцца беларускім адраджэнскім рухам і бярэ нават у ім чынны ўдзел.

У 1906 годзе ў Вільні пачынае выходзіць беларуская часопіс „Наша Доля“ і К. Міцкевіч, навязаўшы лучнасьць з рэдакцыяй, у хуткім часе становіцца яе сталым супрацоўнікам, прысылаючы да друку сваю паэзію, падпісываную прыбраным прозьвішчам (псэўдонімам — мянюшкай) Якуб Колас, а прозу — Тарас Гушча. І вось-жа ў № 3 „Нашае Долі“ надрукаваны быў верш „Беларусы“ — гэта быў першы верш Я. Коласа, які пабачыў сьвет у друку. У вершы гэтым Якуб Колас заклікае:

Ўстаньце хлопцы, ўстаньце браткі,
Ўстань ты, наша старана!

Ужо глядзіць к нам на палаткі
Жыцьця новага вясна!

Ці-ж мы хлопцы рук ня маем?
Ці-ж нам сілы Бог ня даў?
Ці над родным нашым краем
Луч свабоды ня блішчаў?

Выйдзем разам да работы,
Дружна станем, як сьцяна —
І прачнецца ад дрымоты
З намі наша старана!

Кінуўшы гэты заклік, ён сам горда станавіцца ў рады змагараў за лепшую долю беларускага народу і прадусім стараецца здабыць для беларускае моладзі родную беларускую школу. І так прыймае ён чынны ўдзел у першым нелегальным беларускім вучыцельскім зьезьдзе, які адбыўся ў 1906 годзе ў Вільні, у залі пры касьцеле сьв. Мікалая, а пасьля арганізуе патайны „Беларускі Саюз Народных Вучыцялёў,“ які ў праграме сваёй дамагаецца для беларусаў роднае школы. У хуткім аднак часе паліцыя выкрывае арганізацыю беларускіх вучыцялёў і ў рэзультаце гэтага К. Міцкевіча звальняюць з пасады вучыцеля і аддаюць пад суд. К. Міцкевіч аднак ня спыняецца ў працы і падчас калі йшло сьледзтва, у зімку 1906-7 году, закладае у в. Мікалаеўшчына нелегальную беларускую школу, з 12-цю вучнямі, а ў 1907-8 годзе адчыняе такую-ж беларускую школу ў маёнтку п. Гарадзялкоўскага ў Магілёўшчыне, які прыхільна адносіўся да беларусаў.

За змаганьне за родную беларускую школу, у 1908 г. царскі суд засудзіў К. Міцкевіча на 3 гады вастрогу. Гэта ня зьбівае К. Міцкевіча з выбранага шляху і ён, седзячы ў менскім вастрозе, піша цэлы рад вершаў і апавяданьняў, і пачынае пісаць найпрыгажэйшы і найлепшы свой твор, паэму „Новая Зямля.“ Выйшаўшы з вастрогу К. Міцкевіч далей вядзе сваю працу і па нейкім часе дастае ўзноў пасаду настаўніка у в. Купяцічы каля Пінска. Тут К. Міцкевіч ажаніўся з Марыяй Каменскай і пасьля пераехаў ў Менск, у III-е прыходзкае вучылішча.

Усясьветная вайна адрывае К. Міцкевіча ад роднае старонкі: ён змушаны выехаць у Маскву, дзе быў праз нейкі час у вайсковай школе, пасьля на фронце ў Румыніі, а пасьля ў Курскай губэрніі ў Расеі і толькі ў 1921 годзе змог прыехаць у Менск.

Падчас вайны Я. Колас пісаў мала і толькі вярнуўшыся ў Менск ізноў разьвіў сваю цэнную літэратурную працу.

Рада Народных Камісараў Радавае Беларусі, прызнаючы вялікую вартасьць літэратурнае працы Я. Коласа, нада-

ла яму тытул Народнага Паэта, які паміж іншым, дае яму дажывотную пэнсію. Цяпер Я. Колас стала пражывае у Менску, зьяўляецца заст. прэзыдэнта Беларус. Акадэміі Навук і далей піша і ўзбагачвае скарбніцу беларускае літэратуры.

Рос, гадаваўся і працаваў Я. Колас сярод беларускага народу, акружаны багацьцем беларускае прыроды, і дзеля гэтага ўся бадай творчасьць ягоная зьвязаная з жыцьцём беларускага народу і беларускаю прыродаю. Ніхто не апісаў багацтвы беларускай прыроды гэтак хораша, як гэта зрабіў Я. Колас.

Найбольш ведамыя творы Якуба Коласа гэта:

**„Новая Зямля“** (выданая ў 1923 г.). — вялікая вершаваная паэма з сялянскага жыцьця, у якой паэт апісвае жыцьцё малалямельнага селяніна Міхала, каторы служыў у кн. Радзівіла лясьніком і ўсялякімі спосабамі стараўся набыць кавалак зямлі. Бедны Міхал не дачакаў свае гаспадаркі, бо калі ўжо ўся купля зямлі была наладжана — памёр. У „Новай Зямлі“ Я. Колас вельмі падрабязна апісвае жыцьцё і душу беларускага селяніна і адносіны паміж сялянамі і панамі; прыгэтым надзвычайна прыгожа малюе ён беларускую прыроду.

**„Сымон Музыка“** (выд. у 1925 г.) — гэта нязвычайна прыгожая і вялікая паэма, у якой апісана доля беларускага вясковага хлопчыка Сымона, абдаронага прыродай вялікім талентам паэзіі і музыкі. Сымонка, якога бацька бяздайпрычыны выгнаў з хаты, то сам адзін, то з дзедам (вясковым жабраком), з скрыпкай у руках, шмат абышоў людзей бедных і багатых, нават быў і ў карчме і ў князеўскім замку, іграў бедным і багатым, сачыў за жыцьцём і бачыў ягоныя вялікія няроўнасьці, адчуваў гэта і перажываў. Ходзячы так у ваднэй хаце спаткаў ён дзяўчынку Ганну і яны адно другое вельмі палюбілі і хоць пасьля на доўга і далёка разышліся, адно аб другім не забывалі. Але вось у Ганну закахаўся сусед яе Дамянік, які ня меў аднак у яе ўзаемнасьці. За гэта са злосьцяй аднаго разу напаў ён на яе раптоўна. Ад вялікага-ж перапалоху Ганна моцна захварэла і сталася няпрытомнай. У хуткім часе вяртаецца Сымонка, а прышоўшы да яе хаты, зачаў вельмі прыгожа йграць. Ганна, пад уражаньнем гэтае музыкі, паступова вярнулася да нармальнага жыцьця. Паэму гэту Якуб Колас прысьвячае беларускай моладзі.

**„У Палескай глушы“** і **„У глыбі Палесься“** (выд. 1923—1931 г.). — гэта адна вялікая повесьць з жыцьця беларускае вясковае інтэлігенцыі, галоўным чынам настаўніцтва на Палесьсі, у пачатку 20 сталецьця. У повесьці гэтай Я. Колас ярка адбівае жыцьцё беларускае інтэлігенцыі, беларускія

і небеларускія тыпы на Беларусі, а так-жа адносіны сялян-паляшукоў да рэлігіі, паноў, навучаньня ў школе ды ўсякага начальства.

**„Песьні жальбы“** (выд. у 1910 г.) зборнік вершаў напісаных у часе прабываньня Я. Коласа ў царскім вастрозе ў Менску. У большасьці вершаў гэтага зборніка паэт апявае гора многапакутнага беларускага народу, выказваючы жаданьне волі для роднага краю.

**Водгульле“** (выд. у 1922 г.) — зборнік вершаў з такімі-ж бадай матывамі, што і „Песьні жальбы“, але пазьней напісаны: у часе вайны і рэвалюцыі.

**Апавяданьні“, „Родныя зьявы“, „Казкі жыцьця“, „На рубяжы,“ „На прасторах жыцьця“.** (Выд. у 1912, 1914, 1921, 1925 г.). — Гэта зборнікі меншых і большых апавяданьняў, казкаў, у якіх пісьменьнік у праўдзівым выглядзе, бяз ідэалізацыі і староннасьці, арыгінальна апісвае жыцьцё беларускіх сялян часта з соцыяльным, палітычным элемэнтам, а нават гумарам і іншыя.

Якуб Колас напісаў таксама некалькі сцэнічных твораў як: **„Антось Лата“**, драматычная сцэна ў двух актах, **„На дарозе жыцьця“**, сымболічна-драматычны абразок аб Беларусі, **„Забастоўшчыкі“** — драматычная сцэна з часоў рэвалюцыі ў 1905 годзе, у якой прадстаўляецца нелегальны зьезд беларускіх вучыцялёў.

Якуб Колас, будучы вучыцелям, напісаў таксама школьны падручнік **„Другая чытанка для дзетак беларусаў“**. (выд. у 1909 г.) і **„Мэтодыку роднае мовы“** (выд. у 1926 г.).

Праца Я. Коласа як на беларускай ніве грамадзкай, так і на ніве літэратурнай, аграмадная, ягоныя-ж творы, у якіх як у люстры адбіты наш Край Беларусі, жыцьцё беларускага народу, ды ў якіх выяўляецца вялікае нездаваленьне з існуючага палажэньня — і заклік да працы над палепшаньнем долі Беларускага Народу — гэта неацэненыя скарбы. Народ іх цэніць і будзе заўсёды цаніць, а сам паэт займае пачэснае месца паміж адраджэнскім і беларускімі працаўнікамі.

Мы-ж з свайго боку прыносім Ґаважанаму Юбіляту шчырае пажаданьне, каб у другой паўсотцы жыцьця свайго быў Ён ня менш плодны ў сваей працы і здаровы дачакаўся аканчальнага адраджэньня нашае супольнае Бацькаўшчыны — Беларусі.

Я. Н.



# Крыху з нашай гісторыі.

## Люблінская унія.

Як мы ўжо бачылі з папярэдніх артыкулаў, Літва і Беларусь, ня гледзячы на Крэўскую унію з 1385 году, аканчальна ня зьліліся з Польшчай і нават праз 2 стагодзьдзі даволі рашуча баранілі сваей незалежнасьці. Дагаворы аб поўнай уніі паўтараліся ў гэтым часе ня раз, але гэтыя ўсе дагаворы былі толькі **юрыдычнымі дакумантамі**, ня маючымі рэальнай, жыцьцёвай сілы. Але з другога боку, як кажа праф. Ігнатоўскі, гэтыя дагаворы і гэтыя юрыдычныя дакуманты сьведчаць так-жа і аб тым, што „былі нейкія ўмовы ў жыцьці абедзьвюх дзяржаў, каторыя прымушалі тварыць многа разоў юрыдычныя уніі?*)

Якія-ж гэта былі ўмовы, якія прымушалі тварыць гэтулькі разоў юрыдычныя уніі, а ўканцы—апошнюю унію ў Любліне?

Прычыны гэтыя былі нутраногa і вонкавага характару. Да нутраных прычын належалі: 1) заўсёдны і глыбокі крызыс вялікакнязеўскай улады, аб каторым мы ўжо гаварылі. Гэты крызыс пачынаецца ад часоў Міндаўга і Кейстута і праз Ягайлу, Вітаўта, Сьвідрыгайлу і іншых цягнецца аж да апошніх часоў перад Люблінскай уніяй. Польскія палітыкі стараліся заўсёды гэты крызыс паглыбіць і трэба сказаць праўду, не бяз удачы.

2) Пад уплывам польскіх парадкаў, грамадзкі строй у Літве і Беларусі пачынае мяняцца, на месца князёўскай улады і дарадчага органу — Рады В. Княства, зложанай з магнатаў і князёў, да рашучага голасу даходзіць Вялікі Вальны Сойм, у які ўходзіла большасьць дробнага баярства-шляхты. Гэтая шляхта хацела уніі з Польшчай і нават, сабраўшыся ў 1562 годзе ў ваенным лагеры пад Віцебскам, утварыла свайго роду **„конфэдэрацыю“**, каб дабіцца поўнай і фактычный уніі з Польшчай. Акт гэтай „конфэдэрацыі“ быў перасланы на рукі караля Жыгімонта II Аўгуста; у гэтым акце была пакорная просьба далучыць В. Княства да Польшчы, каб яна, шляхта, мела магчымасьць зьбірацца на на соймы разам з палякамі, разам выбіраць караля, карыстацца аднолькавымі правамі і прывілеямі з шляхтай польскай і разам бараніцца ад ворагаў.

3) Цяжкае фінансавае палажэньне В. Княства. Агульнае імкненьне ў той час да атрыманьня прывілеяў, якія давалі розныя палёгкі ў аплаце падаткаў, а нават поўнае ад іх звальненьне, прывяло да таго, што ня было каму пла-

*) Гл. „Кароткі нарыс гісторыі Беларусі“ выд. IV. ст. 71.

ціць падаткаў. Дзеля гэтага скарб В. Княства быў пусты. А якраз тагды пачаліся войны з Масквою. Гэтыя войны вымагалі вялікіх расходаў і на войска і на амуніцыю і на будову новых замкаў, а тымчасам грошай ня было. Праўда, жыхары В. Княства на соймах ападаткаваліся і сярэбшчынай (грашовым падаткам) і дзяклам (падаткам у натуры), аднак гэтыя пастановы сойму так і асталіся пастановамі, бо ня было сільнай улады, якая-б магла гэтыя падаткі спагнаць. Нават пры самым канцы свайго незалежнага існаваньня, бо ў 1568 годзе станы В. Княства на Горадзенскім сойме абкладаюцца сярэбшчынай, але гэта ўжо быў апошні самастойны высілак Літвы і Беларусі, каб ратаваць свае фінансы. Аднак спуставаны вайною край ня мог плаціць дый урэшце, апіраючыся на розных „прывілеях“, плаціць не хацеў. У грамадзянстве В. Княства пашыраецца такім чынам думка, што пры уніі з Польшчай будзе лягчэй...

4) Да ўсяго гэтага трэба дабавіць яшчэ польскія ўплывы, якія ад Крэўскай уніі прасочваліся ў Літву і Беларусь. Гарады дасталі Майдэборскае права (самаўрад) і былі апанаваны польскімі рамесьленнымі цэхамі, бо польскія майстры шторэз у большым ліку асядаюць па гарадох В. Княства; магнаты-баяры пакідаюць беларускую культуру і прыймаюць польскую; у наш край наяжджае ў вялікім ліку польскае духавенства, якое шырыць „польскую“ веру і цягне да уніі.

Усё гэта былі прычыны нутранога характару, якія падгатаўлялі грунт да поўнай і фактычнай уніі з Польшчай. Але апроч гэтых нутраных прычын, былі йшчэ вонкавыя, а галоўнаю з гэтых прычын была вайна з Масквою за Лівонію. Вайна гэтая цягнулася з некаторымі перарывамі і пераменным шчасьцем ад 1558 да 1582 году. Пачаў яе маскоўскі князь Іван Грозны, які ў той час ужо зразумеў патрэбу для свайго краю выхаду да Балтыцкага мора і заняў Лівонію. Магістар Лівонскага ордэну Мечаношцаў, разьбіты Іванам, паддаўся пад апеку і абарону Літвы. Тагды пачалася вайна Масквы з В. Княствам і ваенныя падзеі з Лівоніі былі перанесены ў Беларусь. Іван Грозны ў 1562 г. з вялікай арміяй спустошыў ваколіцы Віцебска, Воршы і Шклова, а ў наступным годзе ўзяў і Полацак. Праўда, што войска В. Княства некалькі разоў перамагала маскоўцаў, аднак вайсковыя і фінансавыя магчымасьці Масквы былі куды большыя, як Літвы і вось гэты страх перад Масквою і яе князем папхнуў В. Княства аканчальна ў абняцьці Польшчы.

Даўно намечаны сойм для канчатковага вырашэньня уніі быў урэшце назначаны на 23 сьнежня 1568 году. Але Літоўска-беларускія паслы не сьпяшылі, некаторая іх частка зьявілася у Люблін толькі на 10 студзеня 1569 году.

Зараз на першым паседжаньні выявілася вялікая розьніца ў імкненьнях адных і другіх. Палякі цьвярдзілі, што унія ўжо існуе здаўных, бо ад часоў Ягайлы; што яна была паноўлена і пры Вітаўце у Горадле (1412) і пры Александры (1501 г.), што трэба толькі гэтыя ўсе дагаворы ўвесьці ў жыцьцё; літоўска-беларускія паслы, наадварот, адкінулі ўсякае юрыдычнае значэньне даўнейшых актаў уніі, цьвярдзілі, што яны ёсьць няважнымі, дзеля чаго і ўсплывае цяпер пытаньне аб уніі на парадак дня. Пры гэтым яны прадставілі свой праект уніі, які ў галоўных рысах выглядаў так: поўная самастойнасьць В. Княства, ненарушальнасьць яго граніц, аддзельны сойм, аддзельны ўрад і аддзельная адміністрацыя, аддзельныя законы і манэта, а толькі супольны гаспадар (кароль і в. князь) і супольны агульны сойм для вырашэньня супольных, інтэрэсуючых абедзьве дзяржавы, спраў.

Гэты праект выклікаў у палякоў цэлую буру гневу: польскія паслы нізашто не хацелі дапусьціць да аддзельных соймаў і нават да існаваньня Рады В. Княства, кажучы, што гэтая Рада і была прычынай гэтакай адвалочкі ў справе заключэньня уніі. Каб далей не адцягваць справы, польскія паслы прасілі караля выдаць загад, каб літоўска-беларускія паслы заселі на сойме разам з польскімі і прынялі тую унію, якая ўжо была гэтулькі разоў падпісывана. Кароль ужо хацеў выдаць такі загад, але літоўска-беларускія паслы, пачуўшы аб гэтым, пачалі разьяжджацца з Любліна. Тагды кароль хацеў прыцягнуць на сойм прынамсі тых, якія йшчэ асталіся ў Любліне, але і тыя пасьпяшылі пакінуць Люблін (1 марца).

Тагды палякі зразумелі, што дабравольна Літва і Беларусь з Польшчай ня злучацца. а трэба іх да гэтага прымусіць. Яны добра ведалі, што калі цяпер, пры жыцьці апошняга з Ягелёнаў гэтага ня зробяць, то справа уніі можа быць пахавана, бо па сьмерці Жыгімонта II В. Княства можа выбраць для сябе князя ня з роду Ягайлы, а з якога іншага і тагды ўжо нішто ня будзе лучыць, нават адна дынастыя, Літвы з Польшчай...

Дзеля гэтага палякі, апіраючыся на тым, што паўднёвыя, украінскія, землі: Палесьсе, Валынь, Падольле былі далучаны некалі да Літвы продкамі Ягайлы, прасілі апошняга з Ягелёнаў дараваць гэтыя землі Польшчы. Жыгімонт так і зрабіў: ён выдаў унівэрсал, на падставе якога землі тыя, якія дагэтуль належалі да Літвы, далучаліся да Польшчы.

Літоўска-беларускія паслы, даведаўшыся ад гэтым аж закіпелі са злосьці: некаторыя з іх хацелі ехаць аж у Крым, падымаць татараў процiў Польшчы! Але вайна з Польшчай, пры фінансавым банкроцтве дзяржавы, пры

грозьбе з боку Масквы і пры сымпатыях для уніі з боку дробнай шляхты, была немагчымай. Зразумелі гэта паслы і вярнуліся назад у Люблін.

Палякі ведалі наперад, што Літва, акружаная з усіх бакоў ворагамі і разьяданая нутранымі недамаганьнямі, некалі здасца і былі цьвёрдымі ў сваіх вымаганьнях.

Бачачы, што няма ніякага выхаду, літоўска-беларускія паслы пачалі прасіць караля, каб не адрэзваў ад В. Княства адвечных яго зямель і захаваў яго самастойнасьць. Яны нават кінуліся на калені перад каралём, каторы разам быў і іх В. Князем і малілі яго ня губіць В. Княства і не аддаваць яго ў няволю паляком. Аднак кароль не паслухаў іх просьбы і загадаў прысягаць на унію. Прысяга адбылася 1 ліпня 1559 году.

Гэтак наступіла „дабравольнае“ спалучэньне літоўска-беларускай дзяржавы з Польшчай.

Асновы гэтай уніі былі такія: Літва і Беларусь, злучаюцца з Польшчай у адзін дзяржаўны арганізм, у адну Рэспубліку. Гэта Рэспубліка (Rzecz Pospolita) будзе мець аднаго гаспадара, які будзе насіць тытул: кароль польскі, в. князь літоўскі, рускі, прускі, мазавецкі, жмудзкі і г. д. Кароль выбіраецца на агульным сойме ў Варшаве; сойм як для аднэй часткі Рэспублікі, так і для другой супольны; супольныя таксама і грашовыя знакі; падданыя Літвы і Польшчы маюць права купляць і мець уласнасьць як у аднэй так і другой часьці дзяржавы. Аднак пры ўсім гэтым кожная з дзяржаваў захоўвае асобнае войска, свае асобныя законы (у нас „Літоўскі статут“) і асобныя важнейшыя пасады. Тут не ад рэчы будзе адзначыць, што ня гледзячы на пастановы уніі, грашовыя знакі, былі ў кароне і В. Княстве асобныя аж да 17 стагодзьдзя, а ўсе астаткі аддзельнасьці і адменнасьці В. Княства былі скасаваны аж у 1791 годзе, на аснове гэтак званай канстытуцыі 3 мая.

Пасьля Люблінскай уніі польскія палітычныя і культурна-народныя ўплывы пашыраюцца ў нашым краі яшчэ болей. Польскія палітыкі, выкарыстаўшы труднае палажэньне нашага краю ў часе Люблінскай уніі, выкарыстоўвуюць яго і далей, пашыраючы свой „stan posiadania“.

Якое вялікае значэньне мела унія Літвы з Польшчай, паказваюць прапановы некаторых польскіх гісторыкаў падзяліць усю гісторыю Польшчы на дзьве эпохі: 1) да 1386 году, калі Польшч імкнулася на захад і 2) ад 1386 г., калі Польшч імкнецца на ўсход.*) А другі гісторык польскі М. Бобжыньскі піша выразна, што „істота гісторыі Польшчы

*) T. Wojciechowski. „Co to jest historja i poco jej się uczymy“? Wykłady wstępne historji polskiej na wszechnicy lwowskiej. Lwów. 1883.

палягае не на нутраным яе разьвіцьці, а на цывілізацыі ўсходу".*)

Аднак з гэтай цывілізацыяй усходу тагды (так як і цяпер) справа стаяла дрэнна. Польшч сама пачала тагды хварэць на розныя палітычныя і грамадзкія хваробы, якія давялі яе да гібелі.

В. Г.

# Ab kulturnych formach žyćcia.

## Nie paasobku, a ŭsie razam!

U biełaruskaj presie („Bieł. Krynica" № 39) było anahdaj padniata dražlivaje ale praŭdzivaje pytańnie, što biełarusy apošnim časam niejak asłabili demonstravańnie najbolšaha svajho nacyjanalnaha skarbu, rodnaj biełaruskaj movy. — Toj z tych, heny z inšych pryčyn užyvajuć svaje movy tolki dla „chatniaha žyćcia" (Złosnyja jazyki kažuć, što jość takija biełaruskija siem'i, što i doma nia ŭžyvajuć movy biełaruskaj). U publičnym-ža žyćci, a navat na vulicy (u vioscy i ŭ mieście), biełaruskaja mova zacichaje. Dla ludziej nieabznajomlenych z našym žyćciom stvarajecca ŭražańnie, byccam u nas sapraŭdy niama biełarusaŭ, a žyvuć tut tolki rasiejcy, palaki ci chto jašče inšy. Stvarajecca sapraŭdnaja nieraźbiarycha, z katoraj usio-ž treba vyjści i to — vyjści z češciu.

Nia miejsca tut — i nia čas! — uśviedamlać kaho ab značeńni dla kožnaha narodu svajoj rodnaj movy. Pryjmajemo heta dziela taho jak peŭnik. Stavim sabie tut tolki pytańnie, jak uzmocnić nacyjanalnuju samadyscyplinu, kab tyja prynamsia biełarusy, što zavuć siabie śviedamymi, śviedamaść hetu naležna vyjaŭlali i pieradusim usiudy dzie možna, užyvali svaje tolki rodnaje biełaruskaje movy.

Voś-ža zrabić usio heta „u razsypnuju" nia možna, bo ŭsioroŭna adzin budzie až da śmiešnaści ŭsim naražacca svajoj „śviedamaściaj", a druhi nia raz z hetaha budzie stroić žarty. Prymusić-ža niekaha da ŭžyvańnia biełaruskaj movy niama nijakich sposabaŭ; a kab takija i byli, dyk na šmat nie prydalisia-b. Što-ž tady rabić?

A rabić treba — na našu dumku — toje, kab śviedamyja biełarusy d a b r a v o l n a ŭziali sabie za nacyjanalny abaviazak, za pavinnaść užyvać usiudy biełaruskuju movu. Tady tolki ŭdasca adnym zamacham asiahnuć dźvie karyści: u kožnym biełarusie vyrabić stojkaść za najbolšaje svajo nacyjanalnaje dabro — movu, a ŭ čužyncaŭ vymusić pierakanańnie,

---

*) M. Bobrzyński. Dzieje Polski w zarysie wyd. 4. 1927. I. str. 27.

što biełarusy sapraŭdy isnujuć i majuć svaju movu. Sprava ŭ tym, što kali kožny paasobku tolki budzie publična ŭžyvać biełaruskaj movy, dyk jon usioroŭna ŭtonie ŭ ahulnym mory nie pakinuŭšy pa sabie śledu. Ale kali naraz usie biełarusy ŭ takoj choć-by Vilni pačnuć usiudy havaryć pabiełarusku, dyk heta napeŭna zrobić nia tolki latučy śled, ale i niaźnikomuju piačać.

Kab usio heta pravieści, pravieści dobra i planova, treba zasnavać adumysłovaje „T-va pryjacielaŭ biełaruskaha słova", jakoje nia mieła-b šyrokich i doŭhich statutovych vymahańniaŭ, a katoraje zabaviazyvała b svaich siabraŭ tolki da kultu biełaruskaha słova.

Heta zdajecca była-b najlepšaja raźviazka całaj spravy.

*V. S.*

---

# Literaturny addzieł.

## „MAŁADYM PAETAM"

Pahlańcie biazdolniki ŭ dal biezpraśvietnuju;
Na baćkaŭskich honiach harać kahancy.*)
Čur! Słuchajcie rodnuju pieśniu pryvietnuju,
Iduć piaśniare-dudare-małajcy.

Iduć i śpiavajuć vam rodnaju movaju.
Złažyŭšy u pieśniach vaš sum i vaš śmiech;
Tak jdziecie-ž za imi vy ściežkaju novaju
U kraj adradžeńnia, svabody dla ŭsich!

J. V.

## VIASKOVY VUČAŃ.

Abuty ŭ łapci, ŭ łatanaj siarmiažcy.
Z pałatnianaj torbaj na ramiennaj dziažcy,
Na jaho hałoŭcy šapka iz barana,
Vopratka takaja u vučnia Ivana.

Choć na dvare viecier śnieham zamiataje
Jenčycca i płača, i piaje, i hraje,
Choć maroz siardzity mocna ščypie ruki,
Naš Janulka hetaj nie baicca muki,

Jon idzie i zvonka piesieńki śpiavaje,
Jon idzie u škołu, idzie paśpiašaje.
Hetkich jak jon dzietak jość u škole mnoha,
Jany ŭsie viasioły: — sumnaha nikoha.

---

*) Kahaniec — lichtaryk z masła ci smały abo z smalniakoŭ, blašanka z zapalenuju smałoju dla łoŭli ryby nočču ci ceramonijaŭ u kupalski viečar.

Jany dobra znajuć navuki patrebu,
I vučacca dobra, što lepš i nia treba.
Heta skarb vialiki praca i navuka,
Dla ščaście i voli peŭnaja zaruka.

**U. Kazarovič.**
**14-ci letni vučań 6 ad. školy paŭšechnaj.**

## БАРАЦЬБІТОМ.

За лепшую долю, за шчасьце народу
Знасілі Вы кары і зьдзек,
Хай Вашы імёны патомнаму роду
Паслужаць прыкладам на век.

Ішлі Вы у цемры, шукаючы сьвету
Сярод пуцявінаў цлухіх,
Вы бачылі ясна далёкую мэту
Ў зіяньні агнёў залатых.

Глыбокія багны, заросшыя пушчы
Тамілі, труднілі Ваш шлях,
Вы трацілі сілы, сярод гэтай гушчы
А ўсёжткі ня здолеў Вас страх.

Вы шлях церабілі да сонца і волі.
Вы сьветач культуры нясьлі,
Цярпелі і холад, і голад, і болі,
А ўсёжткі наўперад ішлі!

Па шляху крывавым, герояў народных
Пайдзём-жа, Браты, ўсе і мы!
І скажам прад сьветам у словах насгод-
[ных:
„Мы гэтых герояў сыны!“

**Уладзімер Берняковіч.**

* * *

Навакол — муры, простыя лініі.
Ўсё цішэйшы на вулках крок.
Каля рэчкі вагнямі сінімі
Забаўляецца вечар — змрок.

А у гомане змора чуецца...
І ўжо хутка атуліць ноч
Тых дзяўчат (што прайшлі па вуліцы)
З размалёванай сіньню воч.

На рагох кліча ў госьці афішамі
Сэнсацыйны, нясмачны фільм.
Я брыду сабе вулкамі сьціхшымі,
Падглядаю васеньні стыль.

Я заўважыў сягоньня: клёны
Загарэліся чырваньню сьвеч...
Круціць лісьце вецер шалёны
І кідае мне насустрэч...

Навокал — муры, простыя лініі.
Усё цішэйшы на вулках крок.
Каля рэчкі — вагнямі сінімі
Забаўляецца вечар — змрок.

**Хведар Ільляшэвіч.**

---

# Да нас пішуць.

## КУЛЬТУРНАЯ ПРАЦА БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ ВЁСАК САЎЦАВІЧЫ, ІВАНАВІЧЫ і МОЎЧАДЗІ БАРАНАВІЦКАГА ПАВЕТУ.

Беларускае грамадзянства нашае старонкі зразумела патрэбу культурна-прасьветнае працы на роднай ніве і дзеля гэтае мэты выкарыстывае кожную магчымасьць.

І так яшчэ гадоў чатыры таму назад, за кароткі час існаваньня ў нас гуртка Т.Б.Ш. зладжаны былі два прадстаўленьні, на якіх ставілі „Сурдут і Сярмяга“ Гутоўскага і „Дзядзька Якуб“ Фр. Аляхновіча. Прадстаўленьні вельмі былі ўдалыя. За сабраныя грошы куплена каля 20 беларускіх кніг у супольную беларускую бібліятэку.

Далей, каб мець магчымасьць вясьці культурна-асьветную працу на роднай ніве, заложана ў 1931 г. ў в. Іванавічы Гурток Вясковае Моладзі. Моладзь наша, пры помачы гэтага гуртка зладзіла на Каляды беларускае прадстаўленьне, падчас якога былі адыграны: п'еса „Модны шляхцюк“ і жарт „Пасланец“ Родзевіча. Прадстаўленьне таксама адбылося вельмі ўдала, асабліва добра гулялі: Надзя Говар і Кастусь Варанец, а Говар Арсень вельмі добра дэклямаваў беларускія вершы на заканчэньне спэктаклю. Публікі на прадстаўленьні было вельмі многа, а за сабраныя грошы з білетаў ізноў куплена кніжак у бібліятэку, якая налічвае ўжо 110 кніжак.

Беларуская моладзь у Моўчадзі, ідучы за прыкладам Іванаўскае моладзі, 3 траўня с. г. таксама наладзіла беларускае прадстаўлене ў Моўчадзі. ставячы камэдыю Крапіўніцкага „Па рэвізіі“. Трэба зазначыць, што ў Моўчадзі ёсьць вельмі нават многа сьведамае беларускае моладзі, якая магла-б вясьці зусім добра прасьветную працу і дзеля гэтага вельмі шкада, што яна да гэтага часу ходзіць самапасам. Беларуская моладзь у Моўчадзі павінна як найхут-

чэй залажыць гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры і тады, пры помачы сваей арганізацыі, супольнымі сіламі часьцей ладзіць беларускія прадстаўленьні, а сабраныя грошы пушчаць на культурныя мэты. А тады і ня трэба было-б прасіць ласкі „Стшэльцаў".

Сёлета 1-га лістапада беларуская моладзь, а так-жа і старэйшае беларускае грамадзянства ў в. Іванавічы, дзе даўно ўжо адчувалася патрэба свае роднае беларускае арганізацыі, залажыла Гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры. Дзень гэты ў жыцьці нашае стараны, асабліва вёсак Іванавічы і Саўцавіцы, астанецца днём гістарычным. Дзеля таго-ж, што ў вёсцы нашай ёсьць даволі многа моладзі падвучанай, ёсьць надзея, што гурток гэты ў хуткім часе разаўе сваю культурную дзейнасьць, чаго ўжо даўно чакае ўсё нашае грамадзянства.

Дык жадаем пасьпеху. В—ц.

## ПАРА НАМ ПАПРАВІЦЦА.

**в. Зялёнкі,** Сьвянцянскага пав. З усіх бадай куткоў Беларусі чытаю я карэспандэнцыі ў „Шляху Моладзі", дык надумаўся і я напісаць пару слоў аб жыцьці ў нашай старонцы і зрабіць пару ўваг для нашай моладзі.

Жыхары ў нас чысьцюсенькія беларусы, паміма таго што ўсе бадай у часе апошняе перапісі былі запісаныя палякамі; гутараць паміж сабой толькі пабеларуску, але калі хто-небудзь паявіцца незнаёмы, калечаць свой язык і нібыта „пальшчаць". Сярод моладзі пашыраецца моральны разлад, яе точыць чарвяк алькагалічны і энэргічна атакуюць агітатары „Стоважышэньня Млодзежы Польскей" і „Стшэльца", якія ня толькі адкідаюць мову і песьню беларускую, але так-жа і абычаі, уводзячы ўсё нам чужое, польскае.

Да гэтае пары моладзь наша глядзела на гэту агітацыю даволі крытычна, але мне здаецца мала глядзець толькі крытычна, трэба іменна даць адпор гэтай агітацыі, дэманструючы ўсюды сваей беларускасьцяй, трэба ўсюды гаварыць пабеларуску, сьпяваць песьні толькі беларускія і трымацца сваіх беларускіх абычаяў, — бо яны нам блізкія, родныя, мілыя і ня горшыя ад чужых, а нават лепшыя; пры тым слухаць маемо мы сваіх беларускіх арганізацыяў, якія заўсёды стаялі і стаяць у абароне беларускага народу і працуюць над палепшаньнем ягонае долі. Замест „казёнкі" ці „самагонкі" возьмем мы добрую беларускую кніжку і часопісь, а з іх мы даведаемся, як маемо жыць і працаваць.

Пара нам ужо паправіцца. Сякі—такі.

# Хроніка

## З беларускага жыцьця.

**Сьвяткаваньне Юбілею Янкі Купалы і Якуба Коласа.** У сувязі з прыпадаючымі сёлета 50-тымі ўгодкамі жыцьця найвялікшых беларускіх паэтаў Янкі Купалы і Якуба Коласа, у Вільні сарганізаваўся адумысловы камітэт дзеля наладжаньня ўрачыстага сьвяткаваньня гэтага юбілею. Вось-жа камітэт гэты 27-га лістапада с. г.—у б. залі „Апольлё"—вул. Домброўскага 5—ладзіць урачыстую акадэмію прысьвячаную юбілею Купалы і Коласа з наступнай праграмай: 1) Рэфэрат грам. В. Багдановіча аб творчасьці Я. Купалы, 2) Рэфэрат д-ра М. Чарнэцкага аб творчасьці Я. Коласа, 4) Выступленьні беларускага хору пад кіраўніцтвам грам. Р. Шырмы і 4) Дэклямацыі вершаў Юбілятаў. Пачатак акадэміі а гадз. 18-ай Уваход бязплатны.

Беларускае грамадзянства бязумоўна павінна прыйсьці на гэту акадэмію у як найбольшым ліку.

**З жыцьця Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры** — У пачатку м-ца лістапада с. г. польскія ўлады спынілі дзейнасьць Гуртка БІГіК у в. Хархі, Пастаўскага пав. — 20.XI с. г. Гурток БІГіК у Мураванай Ашмянцы (Ашмянскі пав.) ладзіў лекцыю, на тэму: „Рэлігія і Нацыянальнасьць," якую прачытаў ведамы беларускі народны дзеяч Кс. Адам Станкевіч. Зацікаўленьне лекцыяй было вялікае. Мяйсцовае беларускае старэйшае грамадзянства, а так-жа і моладзь, вельмі радасна віталі Кс. А. Станкевіча і дзякавалі за прачытаную лекцыю. Трэба зазначыць, што гурток гэты ўжо некалькі разоў стараўся наладзіць беларускае прадстаўленьне, аднак Ашмянскае стараства не давала на гэта дазволу. У гэтай справе пасол Ф. Ярэміч падаў інтэрпэляцыю Міністру Ўнутраных спраў. — Паміма таго што Бел. Інстытут Г. і К. у сваей дзейнасьці напатыкае на розныя перашкоды, усё-ж-такі ён расьце і разьвіваецца. І так апошнім часам паўсталі ягоныя новыя гурткі ў в. Іванавічах, Баранавіцкага пав., у м. Баранавічах, і ў в. Райца, Наваградзкага пав. Новым беларускім культурным пляцоўкам жадаем пасьпеху ў працы.

**Лекцыі ў Т-ве „Беларусаведа“ пры Віленскім Унівэрсытэце.** — 13.XI с. г. на зборцы Т-ва „Беларусаведы“ у Вільні, ў VII залі Унівэрсытэту С. Б., гр. Ст. Станкевіч прачытаў лекцыю: „Аб беларускай літэратурнай сучаснасьці ў Зах. Беларусі“, у якой гаварыў аб творчасьці Н. Арсеньневай і М. Машары. — 20.XI с. г. на зборцы гэтага-ж Т-ва чытаў лекцыю др. Я. Станкевіч на тэму: „Што зроблена і што яшчэ трэба зрабіць у дасканаленьні беларускай мовы“.

**Лекцыя інж. А. Клімовіча.** У дзень Міжнароднага Сьвята Ашчаднасьці 31.X с. г. інж. А. Клімовіч, у памешканьні Бел. Інстытуту Г. і К. ў Вільні, прачытаў лекцыю на тэму: „Ашчаднасьць як аснова народнага быту“. Пасьля лекцыі адбылася ажыўленая дыскусія, у якой усе прамоўцы выказаліся за патрэбай ашчаднасьці і арганізаваньнем сваей беларускай коопэратыўнай касы.

**Зборкі ў Бел. Навуковым Т-ве.** 1 і 14 лістапада с. г. у Бел. Нав. Т-ве адбываліся навуковыя зборкі, у часе якіх чыталі рэфэраты: П. Сяргеевіч аб мастацтве і Хв. Ільяшэвіч— аб беларускай літэратурнай бібліографіі.

**Новая беларуская арганізацыя.** Нядаўна ў Беластоку паўстала новае беларускае культура-прасьветнае і выдавецкае таварыства „Сяўба“.

**Беларускі аб'яздны тэатр.** У Вільні нядаўна заснаваўся беларускі аб'яздны тэатр, які маніцца ладзіць беларускія прадстаўленьні на правінцыі. Першыя прадстаўленьні гэтага тэатру маюць адбыцца 26 і 27 лістапада с. г. у Смаргонях, Ашмянскага пав. Ставіць будуць: „Дзядзька Якуб“, „Шустрая бабулька“ і „Страхі жыцьця“.

**Беларускае прадстаўленьне ў Праваслаўнай Духоўнай Сэмінарыі ў Вільні** зладзілі вучні гэтай сэмінарыі 20 лістапада с. г.; ставілі яны „Птушку шчасьця“ Фр. Аляхновіча.

**З выдавецкае нівы.** Нядаўна вышлі з друку і паступілі ў прадажу: „Betlejka“ В. А. — Гэта вельмі прыгожы сцэнічны абразок у адным акце з часоў прыходу на сьвет Хрыста. Новая гэта кніжыца, выд. „Chryścijanskaj Dumki“, мае 16 бачын, каштуе 30 гр.; купіць і выпісаць яе можна з кнігарні „Пагоня“ — Вільня, Завальная 6.

„Jak żywiecca sialanstwu pad kamunistyčnaj uładaj“—Ів. Альхоўскага. Кніжыца мае 16 бачын, апісвае яна цяжкое жыцьцё сялянства пад камуністычнай уладай.

„Шлях“. Пад гэтым назовам пачала выходзіць у Вільні новая тыднёвая беларуская палітычная газэта. Пакульшто часопісь гэта ня выявіла выразна свайго аблічча.

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ:*
*Ізабэля і Альфонс Шутовічы і М. Пяцюкевіч.*

**Выдавец Янка Багдановіч. Рэдактар Язэп Найдзюк.**

„Барацьба“. Пад гэтым-жа назовам пачала выходзіць беларуская газэта ў Бэрліне (Нямеччына). Яна востра выступае супроць паступкаў польскіх уладаў на Беларусі.

**Беларусы ў Латвіі.** — Палажэньне Беларускай Гімназіі ў Дзьвінску зьмянілася. Міністр Кеніньш, пад націскам агульнае апініі, узяў свой загад аб адкрытай паступовай ліквідацыі гэтае гімназіі назад. Але затое месца дасюлешняга дырэктара беларуса заняў латыш кс. Чаман, а таксама звольнена некалькі беларускіх вучыцялёў, а на іх месца пасаджаны латышы. Такая пастаноўка справы для беларусоў нічога пэўнага не дае і бязумоўна беларускае грамадзянсгва ў Латвіі павінна дамагацца, каб дырэктарам гімназіі і вучыцялямі былі беларусы.

— 29.X с. г. Беларуская Гімназія ў Рызе ладзіла сьвяткаваньне 50-х угодкаў жыцьця Я. Купалы і Я. Коласа, у часе якога грам. К. Езавітаў прачытаў лекцыю на тэму: „Янка Купала і Якуб Колас у беларускім адраджэнскім руху“. Пасьля лекцыі выступаў гімназіяльны вучнёўскі хор і былі дэклямаваны вершы юбілятаў.

— 30.X с. г. Т-ва „Беларуская Хата“ ладзіла сьвяткаваньне 50-х угодкаў жыцьця Я. Коласа, у часе якога прамаўлялі М. Дзямідаў і К. Езавітаў.

— „Беларускі Народны тэатр“ у Рызе 26.XI с. г., у залі б. расейскага народнага тэатру, ладзіць прадстаўленьне на карысьць I Рыскай Беларускай Школы. Пастаўлена будзе драма Арэшчыхі „Хам“. Жадаем пасьпеху.

**Беларусы ў Літве.** Беларускае Культурна-Прасьветнае Т-ва ў Літве, 5 і 6 лістапада с. г., у залі кіно „Одэон“ у Коўні, ладзіла беларускі спэктакль-канцэрт, у часе якога адыграны былі беларускія п’есы і выступалі беларускі хор і салісты.

## Naša pošta.

J. Bosianionku ŭ Francyi. Vašy vieršy słabavatyja i da druku nie padchodziać. pišecie lepš prozaj. Vielmi byli-b Vam udziačny, kab pisali Vy nam štoś z žyćcia biełarusaŭ u Francyi i ahułam z tamašniaha žyćcia; heta Vy patrapicie, dyk prosimo nie zabyć.

U. Kazarevič u. Za prysłanyja vieršy dziakujem, jak bačycie častkowa vykarystyvajem. Piara nie kidajcie, pišecie i čytajcie jak najbolš biełaruskich knižak,

J. Znorku „Šlach Moładzi“ pasyłajem, hrošy šlicie na adres redakcyi zvyčajnym paštovym pierakazam.

Leanidu Šydłoŭskamu. 3 zł. atrymali, ščyra dziakujem, adres źmianili. Da kanca siol. hodu ad Vas padpiska na „Šl. Mł.“ apłačana.

Uł. Biernia kovič u. Za prysłanaje i abiacanaje supracoŭnictva dziakujem, časopiś vysyłajem. Nia bačyŭšy Vašych tvoraŭ nia možam skazać napierad, ci budziem ich drukavać; apaviadańni z žyćcia moładzi, a navat nievialikija povieści pažadanyja, prosim prysłać.

V—c Za karespandencyju dziakujem, jak bačacie drukujem. Prosim nie zabyvać.

Przesyłka opłacona ryczałtem.